


ВЫХОДЗІЦЬ З ЧЭРВЕНЯ 1994 ГОДА

# Беларуская МАЛАДЗЕЖНАЯ

*Рэспубліканская грамадска-палітычная незалежная газета* — № 25


*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

## "Саромецца мне няма за што!"

**Працяг размовы галоўнага рэдактара "БМ"** ( стар. 2 )



*Ю. КЛІНЦОЎ:*

## "Ратуй сябе і Беларусь!"

(стар. 4)

*Е. ШУМАРОВА:*

## "ДА БУДЕТ СВЕТ!"

( стр. 3 )

*В. ЗАБЛОЦКИЙ:*

## "Рынок -- это только механизмы!"

( стр. 6 )

## Жыццё ў стылі "БМ"

( стар. 8 )

## ПраРОК

( стар. 7 )



*Вольга БАБАК, "БМ"*

## Нацыя эмігрантаў

( стар. 6 )



*Н. КОПЧЕНОВ, "БМ":*

## "НУЖНЫ МЫ ЕЛЬЦИНУ И ИЖЕ, КАК В РУССКОЙ БАНЕ ПАСАТИЖИ!"

**Политэкономия постсоциализма** ( стр. 3 )

# За турэцкіх двух "шпіёнаў" -- мы без сотні міліёнаў!

# "Саромецца мне няма за што!"

(Пачатак у N 24 "БМ")

## Са Станіславам ШУШКЕВІЧАМ

## працягвае размову галоўны рэдактар "БМ":

***-- Сто дзён беларускага прэзідэнта яговыя сапернікі па выбарчай кампаніі і больш-менш значныя палітыкі адзначылі шматпланавай і разнастайнай крытыкай. Вы не іраваліся расказаць, што ён робіць не так і чаму ён робіць не так...***

-- Я вам магу ўсё растлумачыць. Я думаю, што ён бы хацеў рабіць так.. І хапае розуму зразумець, што да сваіх прадвыбарных абяцанняў яму сур'ёзна ставіцца не варта. Я, праўда, стаўлюся да абяцанняў -- любых -- па-іншаму: не магу абяцаць тое, што не здолею зрабіць. Тут быў падыход іншы, у палітыцы гэта прыём стандартны. Але цяпер трэба нешта рабіць!

Мы на Беларусі не прынялі, не вызначылі няўхільна неабходны накірунак. Хапіла мужнасці ў палякаў, у венграў --паглядзіце вынікі. Я толькі што быў у Польшчы. Быў і раней. Была сярэдняя зарплата ў 220 даляраў, праз год стала 290 (у эквіваленце, яна выплочваецца там у злотых). Яны набліжаюцца да сусветных цэн, а гэта значыць, спрашчаецца абмен, змяншаецца прастора для махлярства на перападзе гэтых цэн. А ў нас гэта прастора пашыраецца.

Патрэбны дзеянні, каб зламаць старую, ірацыянальную псіхалогію -- і на бытавым узроўні, і на дзяржаўна-кіраўнічым.

Вы "Курачку рабу" глядзелі? У вельмі саркастычнай форме, але паказана тое, што ёсць: хто сваёй працай можа стварыць сабе лепшае жыццё, трапляе ў нас у катэгорыю злачынцаў. Ёсць і злачынцы, але ў катэгорыю "ворагаў" трапляюць тыя, хто лепш працуе, хто знайшоў сваё месца, хто ўмее гаспадарыць. І раней і дагэтуль у нас шчаслівы Іван-дурань, якому выпаў абрус-самабранка, залатая рыбка, чарадзейны шчупак. А дзе ж той разумны Ганс, які сваёй працай, сваёй паслядоўнасцю, сваёй беражлівасцю дайшоў да добрага жыцця? Нам бы цуд утварыць -- хоп -- і ўсім добра! А што трэба доўга працаваць -- прабачце.

***-- Але, выбачайце, нам гэтыя цуды ўсе абяцаюць: то адныя выбары, то другія, і кожны кандыдат ведае, як хутчэй ды карацей прыйсці да цудоўнай будучыні.***

-- Вы мяне папракаеце тут дарма. Я казаў пра адзіны цуд, які можна забяспечыць нармальнай крэдытна-фінансавай і манетарнай палітыкай. Гэта -- зрабіць (ну цяпер гэта ўжо немагчыма!) да сярэдзіны будучага года заработную плату ў 150 даляраў. Мы рабілі патрэбныя разлікі, ацэньвалі сітуацыю -- гэта можна было зрабіць, але не такімі захадамі.

Паглядзіце на першую частку праграмы выхаду з крызісу. Мне яна падабаецца. Перапісалі маю праграму, мы над ёй доўга працавалі. Але -- белы пачатак, чорны канец. Адміністрацыйныя захады, рэгуляванне. Ну як жа вы інфляцыю спыніце такімі захадамі?

Я б не спрачаўся з падыходамі па сілавых міністэрствах, па культуры, па адукацыі. Я не ведаю, ці можна было б знайсці рашуча лепшы падыход -- не. Усе варыянты тут падобныя, усе -- у межах нашых эканамічных магчымасцяў.

Але што да эканомікі -- тут не хапае ні адукацыі, ні мужнасці.

Чатыры кампаненты рынка, я пра іх гаварыў год таму на сесіі Вярхоўнага Савета. Не выканаем іх -- наперад не пойдзем. І вось тут не хапае мужнасці. Тут папулізм верхаводзіць, перасцярога: як на гэта паглядзяць? Ну смеху ж варта -- цэны "вярнулі" на старое месца. На што і на колькі дзён? Каго можна гэтым у зман увесці?



***-- Станіслаў Станіслававіч, але ж у камандзе Лукашэнкі працуюць некаторыя з тых, хто выступаў вашым паплечнікам. Яны хто -- "засланыя"? Ахвяраваныя? Пасланыя " на практыку ў экстрэмальных умовах"?***

-- Прабачце, у нашай камандзе не было ніякага таталітарызму, адданасці чалавеку, а не справе. Мы думалі, шукалі варыянты зменаў і прыходзілі да высноў, абгрунтаванняў, гэта быў навуковы падыход. Людзі былі захопленыя ідэяй і верылі, што такія пераўтварэнні можна зрабіць.

І калі ў іх адкрываецца магчымасць рабіць гэта з нейкім іншым -- хіба можна гэтаму пярэчыць? Ніхто не "засланы". Не адрокся ад сваіх прынцыпаў Багданкевіч. І ў межах тых магчымасцяў, якія дае яму гэтая каманда, ён пераконвае крок за крокам, як трэба рабіць, як трэба ісці. І я баюся, што ён ужо занадта пераконвае -- у манетарных пытаннях. Спачатку трэба было пераконваць нашых прадстаўнікоў урада, што банкі -- гэта добра. Але не дай бог занадта пераканаць і зрабіць, каб банкі кіравалі светам, тут можна перайсці мяжу. Глядзіце, які аргумент ужываў Станіслаў Станіслававіч Багданкевіч і чым, як я разумею, пераканаў прэзідэнцкую каманду: падаткі, якія плацяць банкі, вялікія, калі яны павялічваюцца -- гэта даход дзяржаўнага бюджэту. І трэба садзейнічаць рабоце банкаў. Так?

Але глядзіце, што з гэтага будзе. Калі прыбыткі банкаў павялічваюцца, а нацыянальны прадукт спадае -- за кошт збяднення людзей ідзе павялічэнне прыбыткаў. І тут павінен быць разумны баланс. Каб прыбытак банка ўзрастаў толькі тады, калі прамысловасць ідзе на пад"ём, сельская гаспадарка ідзе на пад"ём. А інакш гэта будзе за кошт абірання людзей.

У маёй камандзе была супрацьвага -- напрыклад, чыста манетарнаму падыходу.

Я цяпер бачу: манетарны бок вельмі добра працуе. І Чыгір у мінулым кіраўнік банку, банкір Багданкевіч. Але далей -- размеркавальныя падыходы, Лінг з Мясніковічам. Зараз ідуць кадравыя змены. Але адбываюцца так, што ад новых чыноўнікаў ды губернатараў рынкавых падыходаў і чакаць нельга. Дрэнны варыянт старых дзяржпланаўскіх супрацоўнікаў. Яны нават і старых метадаў не засвоілі, а на новыя -- не здольныя. Гэта ж яны тармазілі ўсе рынкавыя захады і на месцах, і ў Вярхоўным Савеце!

Я лічу, добра, што хапіла мужнасці ў прэзідэнта зрабіць такі крок -- прафесіянала Ягорава вярнуць да вартай яго кваліфікацыі працы. Можа, у прэзідэнта хопіць сумлення прынесці прабачэнні і мне за тыя абразы, якія ён рабіў у мой адрас?! Ніколі я не прысвоіў ні адной капейкі дзяржаўнай. Сама падазронасць у гэтым агідная, прыстойны чалавек прынёс бы прабачэнні, тым больш, што "справа аб цвіках Шушкевіча" дауно высветлена.

Мне здаецца, што ў людзей расчараванне сёння не тым, што ўсё дрэнна -- мы папярэджвалі, што будзе дрэнна, і, можа, я ў больш жорсткай форме, чым іншыя. Але цяпер няма аніякага святла ў канцы тунэля.

Чалавек жа асэнсоўвае, ён жа бачыць, што нічога не робіцца, каб стала лепш. "Да новага года запушчу заводы"! Я, напрыклад, на сябе такое абяцанне ўзяць не мог. Таму што разумеў складанасці, разумеў, што той жа Расіі ў нас зручна купіць, што нязручна. Калі мы заключаем пагадненне -- ну, напрыклад, не ўвозім інамарак, а ўвозім толькі расійскія аўтамабілі -- тут можна папрацаваць, каб пагадненне было выгадным.

Але такіх пагадненняў я зараз не ведаю. І не спадзяюся на талент тых людзей, якія займаюцца гэтай справай -- старыя кадры ў прэзідэнцкай камандзе і ўрадзе, па-кебічаўску яны падыходзяць, паўзуць на пузе ў тую ж Расію: аддаць усё і ўзамен нічога не патрабаваць. Я не думаю, што Заламай нешта зменіць у кантактах з Расіяй, будзе праводзіць **палітыку.**. Не, ён здольны толькі на вернападданасць.

Таму зараз так людзі гавораць. Не таму, што было б лепей пры іншым. Давайце гіпатэтычна ўявім, што абралі б прэзідэнтам мяне. Я вам шчыра скажу: лепей не было б. Можа, было б і больш цяжка, я не выключаю, пайшлі б на больш жорсткую эканомію, напрыклад, па паліву. Але была б надзея. Стабілізацыю мы прагназавалі на студзень. А цяпер, што захоча Расія, тое і зробіць з намі заўтра. У нас запасы паліва нікчэмныя, а нам цяпер кажуць так: мы пачакаем з доўгам, але плаціце сёння. І гэта аплата сёння страх наводзіць на людзей і, дарэчы, толькі спрыяе інфляцыі: вось, маўляў, з новага года давядзецца шалёныя грошы плаціць. А пераарыентацыі ў заробках няма. Калі дзяржава не гарантуе мне дапамогу ў аплаце святла і паліва, кватэры, дык дайце гэтыя грошы ў заробак!

Патрэбна цяжкая работа па пераарыентацыі гэтых патокаў. Гэта якраз тая работа, якую мы планавалі зрабіць, калі гаварылі, што зробім 150$ эквівалент заработнай платы. Гэта не значыла, што з 20 на 150 павялічылася б, і вы ў 7 разоў лепш жыць сталі. Глупства такое абяцаць. Але пераразмеркаваць, каб за свой заробак вы маглі аплаціць і святло, і газ, і праезд у транспарце, ды й на жыццё б хапала не "у прытык".

І мне здаецца, што многія людзі ўжо зразумелі, што зараз перспектыва нулявая.

***-- І вось вы мяне прывялі зноў да таго, што застаецца нашаму беднаму беларусу спадзявацца толькі на дзіва.***

-- Акрамя як на самога сябе, спадзявацца няма на каго. А беларус выжыве. Я шмат цяпер бываю ў вёсцы і бачу: людзі страцілі надзею на дапамогу ў вырашэнні сваіх праблем. Яны ўпраглися і бясконца працуюць. Кажуць: нам бы крышку цукру, усё астатняе тут будзем рабіць. І моладзь застаецца на вёсцы -- не з-за энтузіязму, з-за цяжкага жыцця.

І ёсць толькі вялікая крыўда: тая дзяржаўнасць, якую так нядрэнна заваявалі і ўсталявалі і прадстаўнікі Фронту, і тыя, хто прымаў Дэкларацыю аб суверэнітэце, -- як яна цяпер трацішча! Чалавек, і просты, і прэзідэнт, павінен ганарыцца дзяржавай. І закон выконваць. А прэзідэнт дае прыклад невыканання закона аб мовах, праекты прэзідэнцкіх праграмаў -- усе на недзяржаўнай мове. Наша самастойная дзяржава яму, дарэчы, і падарунак зрабіла --прэзідэнцкую пасаду, -- паважай ты хоць тое, што прывяло цябе да такой улады! Гэтай павагі няма. Нельга ж і сапраўды верыць, што жыццяздольны прынцып: "Я вас усіх у рог скручу, але прымушу быць шчаслівымі!"

***Гутарыла Т. НІЧЫПАРУК, "БМ"***

# ДА БУДЕТ СВЕТ!

**"... сказал монтер и лампочку рукой протер", -- ломкие, уже почти мужские голоса взлетали к еще старинной работы лепному потолку актового зала, вызывая невольную улыбку на лицах строгого жюри. Именно с традиционного приветствия и представления команд началась очередная Республиканская Олимпиада среди учащихся техникумов и высших технических училищ, имеющих честь обучаться профессии техника-электрика. На сей раз -- в Минском политехникуме, который, кстати, недавно отметил свое 65-летие. Восемь команд из различных городов республики были готовы помериться силами.**



Хозяева обрадовали и озадачили своим пониманием привычной профессии: в какой-то загадочной стране электрические нимфы возвышенно плыли в танце у мирно мурлыкающих электрических машин, а джентельмены из Электрик-Сити беседовали между собой исключительно на специальные темы. И добраться до этой страны можно было только на плотах из стабильного напряжения. Да и то при помощи диэлектрических калош и перчаток...

**Андрей Дудко, Молодечненский политехникум:**
*-- Пока что больше думаю об ученье, а будущее туманно. Может быть, меня возьмут на предприятие, где проходил практику.*

Чтобы каждому из этих актеров "добраться" до профессии и обеспечить свое "взрослое" будущее, мало "перечитать" физику иматематику, изучить целую массу специальных предметов. (Одно ТОЭ, то есть теоретические основы электротехники, где есть такие премиленькие вещицы, как переходные процессы, чего стоит!)

Сегодняшняя жизнь перспективами не завораживает: обвал в промышленности и массовые сокращения, растущая безработица среди дипломированной молодежи. На что и на кого рассчитывать?

**Николай Семенов, Гомельское училище N 81:**
*-- Меня вообще-то моя специальность устраивает, тем более, что я хочу продолжить учебу. Недавно я думал, чем же вообще могу заниматься? И понял, что для меня лично электриком быть лучше. По крайней мере, это моё.*

Директор Минского политехникума Иван Сергеевич Рахлей честно признался, что очень волнуется за "своих".

-- Между прочим, и такие конкурсы "работают" на уверенность в правильно избранном пути. Дополнительные знания для учащихся, определенный моральный стимул для преподавателей. Мне же, как руководителю, конкурс позволяет увидеть и тех, и других в деле.

-- А нужно ли это дело? Специалистов сегодня и так хватает.

-- Смотря каких. Специальность, по которой как раз и проводится конкурс, пользуется повышенным спросом. И все ребята, которых мы распределили, получили конкретные места, причем с нормальной заработной платой. Между прочим, у нас даже были резервные места. То есть можно было бы еще распределить и большее количество дипломников. У нас налажены хорошие связи с многими предприятиями. Кстати, там же ребята и практику проходят, а потом, после окончания техникума, туда же приходят уже дипломированными специалистами.

-- Известно, что знания сегодня больших доходов не приносят. Молодежь это хорошо поняла и больше стремится заниматься так называемым бизнесом. Есть ли небольшой прогноз, что может быть года через два-три?

-- Действительно, сегодня наблюдается некоторый спад интереса к учебе. Но я уверен, что ситуация изменится. В любом случае предприятия работать будут, может, иной формы собственности, может, не столь гигантские, значит, и специалисты тоже будут нужны. У классного же специалиста есть возможность заработать -- именно заработать -- так, чтобы и на жизнь хватало и еще кое-что оставалось. Это как-то надежнее, чем торговля, где, кстати, тоже нужны профессионалы. Мы же со своей стороны подумаем о расширении пользующихся спросом специальностей -- такое право нам дано.

**Александр Демидов, Гомельский политехникум:**
*-- А я хочу стать великим человеком. Может быть, на ниве электротехники, может, на каком-либо ином поприще. И стану.*

Каков же выбор у самых "знаистых знаек"? Председатель предметной комиссии и руководитель Республиканского объединения преподавателей-электриков Геннадий Подгайский объяснил, что в рамках методического объединения с политехнической Академией заключен договор, программы скорректированы так, что "отличники", "хорошисты" (и, между прочим, участники олимпиад) имеют право после соответствующего собеседования стать студентами Академии. Причем им засчитываются и годы обучения в техникуме. Для ребят это стимул хорошо учиться, а в Академии убедились, что такие студенты показывают прекрасные результаты.

**Артем Коробейников, Гродненское ВПУ:**
*-- Не думаю, что я буду очень богатым и "крутым". Будет нормальная работа по специальности, так скажем, "кусок хлеба". А что еще надо? Глупо витать в розовых облаках.*

...Когда-то -- в тридцатых годах -- самыми престижными у нас были профессии шофёра, комбайнера, тракториста. Увидев такого бравого парня в хрустящей кожанке, девчонки прямо замирали от волнения.

Говорят, история повторяется. И, может быть, пройдет пяток лет -- и какая-нибудь платиновая блондинка, подталкивая подружку локтем, будет в упоении шептать: "Смотри, вое сам Витя-электрик идет. Вот бы познакомиться!"

**Виталий Яновский, Минский политехникум:**
*-- Если честно, я как-то попробовал поторговать. Это по-своему трудно и требует как физических, так и больших моральных усилий. Жестким очень надо стать. А электротехника мне нравится, и к конкурсу я тоже с удовольствием готовился. Думаю, что в ближайшее время все вернется на круги своя. Не всем же торговать, кому-то надо и экономику поднимать.*

И будет свет. Как признак цивилизации. А это -- очень немало!..

**Елена ШУМАРОВА, специально для "БМ"**

# НУЖНЫ МЫ ЕЛЬЦИНУ И ИЖЕ, КАК В РУССКОЙ БАНЕ ПАСАТИЖИ

**● Политэкономия постсоциализма**

И чего нашему "батьке" дома не сидится! Прямо мистика какая-то: едва он за порог (границу) -- цены прям как министры от радости скачут.

На этот раз президентской милостью назаад они уже не вернутся. Как сообщило любезно слушателям республиканское радио, повышение в полтора почти раза цен вызвано происками Москвы и соседей-прибалтов. Одни на энергоносители их "отпустили", другие -- на продовольствие подняли. Никакими таможенными барьерами мы пока защититься не в состоянии. А это значит -- грабь своих, чтобы чужие боялись (читай -- не растаскивали последние харчи).

Президенту -- ему хорошо. У него, говорят, в Шклове корова есть. С молоком-то парным он перезимует. А вот у меня дома -- только кошка сиамская. Злющая, шустрая и постоянно орущая, мол, мяса давай! Это с моей-то зарплатой? Она ведь -- родимая -- раза в три ниже, чем у российского журналиста и раз в пять меньше, чем у литовского...

Намедни в столовую полиграфической фабрики "Красная звезда" заглянул. И почувствовал себя в шкуре Кисы Воробьянинова: так и хотелось воскликнуть, что, мол, однако -- цены! Те самые маринованные огурчики в качестве дополнительного гарнира предлагались по цене в двести раз дороже непмановских (Кисе их в ресторане "Прага" на Арбате по рублю за штуку сватали). Почти как за апельсин. Шкловские, видать, огурчики. Нынче президентские земляки цену себе знают.

Только бюджетники повышение минимильной зарплаты отпраздновали -- здрасьте-подвиньтесь: ее теперь на полкило "пальцем пханой" колбасы из "кулинарки" всего и хватает.

Молоко, после которого и бутылку мыть не надо, -- тоже "поехало" (по просьбе Милки Александра Григорьевича, видать!). Батон, почему-то получерный и твердый, как отбойный молоток, в несколько раз против своего свеженького и румяного предшественника дороже стал (здесь-то причем энергоресурсы? В смысле качества).

Словом, плохи наши дела, ребятки. Как утверждает Лукашенко, в одном союзе с Россией у нас от нынешней зимы спасение. Простите, но мы это уже слышали. Кебич про то же самое с высокой трибуны разглагольствовал и с Черномырдиным расцеловываясь, старшим братом его обзывал. Старший брат "батьки" -- значит наш с вами дядя. Вот и придется нам отдавать кое-что дяде. Об этом "кое-что" президент уже почти тридцать договоренностей с Россией заготовил. Чего на этот раз отдаст? Да черт его знает: даже депутаты руками разводят!

Одно мне понятно уже сегодня. За "просто так" ничего в этом мире не бывает. Долги возвращать за газ, нефть и электроэнергию рано или поздно придется. Кому? Это -- другой вопрос. Да за те же транзитные денежки мы и в Эмиратах бензинчику прикупим! Там, говорят, даже дешевле. И зарплату нефтедобыдчикам платят "зелеными". И никаких проблем с "наличкой". И гиганты промышленные наши им продовать не требуется.

В России своих проблем свхождением в рынок хватает. А денег -- нет! И для нас их, поверьте, тоже не будет.

Как нет их и в нашей государственной казне.

А чтобы они появились -- работать надо. Работая -- оно и зимой не так замерзнешь, и суверенитет какой-никакой отстоишь. Такие дела. А как вы думаете, земляки?..

**Н.КОПЧЕНОВ, "БМ"**

# ЗАГРАНИЦА НАМ ПОМОЖЕТ

*Честно говоря, не перестаю удивляться энтузиазму, искреннему желанию помочь нам в проведении реформ, казалось бы, преуспевающих иностранцев, которые живут в нормально развивающихся, цивилизованных, демократических странах. Мы уже рассказывали о директоре Ассоциации Муниципалитетов Саксонии Детлефе Диксе, который большую часть времени проводит в Минске, работая экспертом республиканского Центра поддержки демократических реформ имени Льва Сапеги., датчанах Брайане Николсе и Петере Корсби. На прошлой неделе нашу республику посетил темнокожий американец Джеймс Ферн, работающий сейчас заместителем директора института Проблем Самоуправления и Открытого Общества в Будапеште. Правда, институт этот оказывает методическую и финансовую помощь не только Венгрии, но и всем странам Вышеградской группы, Балтии, Украине, Беларуси. А господин Ферн, юрист по образованию, специалист в области муниципальных реформ, до Будапешта 10 лет занимался проблемами местного самоуправления в Сиэтле. Летом этого года известный американский миллионер, предприниматель и меценат Джорс Сорос пригласил Джеймса Ферна поработать в Европе. И первый его визит на новом поприще -- к нам, в Беларусь.*

*Два дня я понаблюдала, как работает американец у нас. Ни минуты передышки, ни перекура. Сразу же после самолета, не заезжая в гостиницу и не обедая, консультирует экспертов Информационно-Образовательного Центра Проблем Самоуправления, затем -- встреча с народными депутатами Верховного Совета, визиты в Мингорисполком, в Фонд Сороса, в Академию Наук. И не просто визиты вежливости и праздное любопытство. Серьезные, проблемные разговоры, каверзные вопросы, искренняя заинтересованность, неподдельное удивление. Удивление, к примеру, нашумевшим инцидентом с Конституционным Судом и поправками в Закон о местном самоуправлении. Каверзный вопрос о том, какие проблемы могут решить органы местного самоуправления (оказалось, дать справку ЗАГС о рождении, о смерти, или разрешить вступить в брак до исполнения 18 лет). Непонимание введения президентской вертикали, функций представительной и исполнительной власти. Непонимание еще многого, не буду перечислять, сами знаете, как трудно бывает объяснить иностранцу, почему во всем мире так, а у нас иначе. Вот уж действительно, как один известный русский поэт писал (правда, про свою страну, но один к одному это относится к нашей): "Умом Россию не понять, аршином общим не измерить. У ней особенная стать -- в Россию можно только верить". (Только не обвиняйте меня, пожалуйста, в непатриотизме. Ну не пришли в голову подходящие строки про Беларусь!) И что самое удивительное (ей богу, я серьезно, без капли иронии) -- господин Ферн верит, что, несмотря на эту самую жесткую президентскую вертикаль, недемократическией закон о местном самоуправлении, по всем прогнозам, выборный закон с мажоритарной системой, реформы в Беларуси пройдут! Беларусь станет процветающей демократической страной. И он искренне готов еще 10 лет помогать нам проводить эти самые муниципальные реформы, без которых невозможна настоящая демократия. Господин Ферн считает, что самое главное сейчас для нас просвещение, образование, чтобы народ осознал необходимость реформ во всех областях и шел смелее на этии реформы. Ведь накоплен же интересный опыт в странах Восточной Европы, принимаются демократические законы, реформы идут довольно быстро, хотя проблемы и трудности у всех очень похожие. Надо смелее идти на радикальные преобразования, тогда будет и результат.*

*И еще Джеймс Ферн заверил нас, что Джордж Сорос, несмотря на прохладный прием белорусским правительством весной, готов по-прежнему помогать Беларуси в проведении реформ, деньги и, самое главное, желание у него есть.*

*Что ж, стоит прислушаться к советам не постороннего, а искренне заинтересованного помочь нам человека.*

**И. СТУДЗИНСКАЯ, "БМ"**

# Ратуйце сябе і Радзіму!

**Калі крызіс закранае сістэму каштоўнасцяў, дзяржава пачынае гінуць. Карупцыя, злоўжыванні, палітычныя інтрыгі, нястрымная пагоня за нажывай, гвалт, кар"ерызм, дэспатызм, даносы і бязмежнае рабалепства -- усё гэта пачынае паглынаць краіну.**

**"Новыя беларусы" з ліку прэзідэнцкай каманды кінуліся "лячыць" хворую эканоміку: будзе хлеб з каўбасой -- будзе і ўсё астатняе. Не, шаноўныя, пакуль хворая душа народа, пакуль у нас не ў пашане праца земляроба і настаўніка, пакуль жабруюць старыя і дзеці выхоўваюцца ў сіроцкіх дамах; пакуль салдаты бягуць з арміі, не створаны ўмовы для сумленнай працы і чалавек не мае ўласнасці, не будзе ў нас ні хлеба ні каўбасы.**

Дарраў казаў: "Гісторыя паўтараецца, гэта адзін з яе недахопаў". "Той, хто не помніць свайго мінулага, асуджаны на тое, каб перажыць яго зноў", -- гэта ўжо словы другога вялікага філосафа, Сантаяны.

Мы паўтараем многія памылкі народаў, якія прывялі да гібелі іх краін. Яны вельмі добра апісаны ў гісторыі, але, нажаль, яны не вучаць нічому нашых, спадзяюся, адукаваных дзяржаўных мужоў.

Я прывяду класічны прыклад з гісторыі магутнай ва ўсіх адносінах старажытнай Грэцыі.



А вы самі ацаніце -- наколькі гэта стасуецца з сучаснай гісторыяй Беларусі. Вось як гісторыкі паказвалі прычыны гібелі адной з самых цывілізаваных краін старажытнасці (скарочана): раменікам і земляробам стала ўсё цяжэй канкурыраваць з таннай рабскай працай. Яны ператварыліся ў люмпен-пралетарыяў, якія жывуць выпадковым заробкам і на падачкі дзяржавы. Агідныя адносіны да вытворчай працы, як да рабскага занятку, атрымалі шырокае распаўсюджванне менавіта ў гэты час; крызіс выявіўся ў зменах у зямельных адносінах -- многія члены грамадства не валодалі зямлёй. Заможныя людзі пачалі ўкладаць грошы не ў зямлю і вытворчасць, а ў гандаль і растаўшчычаства. Складаўся пласт плутакратаў (магутных сваім багаццем), якія сканцантравалі ў сваіх руках асноўныя багацці. Вялікая колькасць выбарных дзяржаўных пасад пачала аплочвацца дзяржавай, грамадзянам пачалі аплочваць нават наведванне народнага сходу. Войска страціла сваю ролю. Сярэдні клас грамадзян знікаў, а бедныя не мелі жадання змагацца за багацці і інтарэсы багатых. Наёмніцтва ў войску падрывала сувязь паміж паняццямі "грамадзянін" і "воін", паміж войскам і народам. Абрабаванае насельніцтва згубіла плацёжаздольнасць і нічога не купляла -- унутраны рынак быў невялікім... Кіруючая частка грамадства згаджалася прыняць уладу любой дзяржавы, якая абараніла б іх багацці і забяспечыла б магчымасць эксплуатацыі рабоў і мясцовага насельніцтва...

Ці не падобнае адбываецца зараз? Працоўныя на дзяржаўных прадпрыемствах атрымліваюць 5-8 капеек ад заробленага рубля. Уласнік-рамеснік не можа купіць сыравіну і энергію. Але ў нас ёсць мясцовая сыравіна, і можна было б узнавіць старыя традыцыйныя вытворчасці, але дзяржава стварыла такія ўмовы для развіцця асабістай уласнасці, што чалавеку лепш хадзіць на працу на завод 2-3 дні ў тыдзень, а астатні час гандляваць за мяжой. Нават кваліфікаваны працоўны, настаўнік, інжынер ператвараюцца ў люмпен-пралетарыят, а гэта пагражае не толькі эканамічным інтарэсам дзяржавы, але і такой кволай яшчэ дэмакратыі на Беларусі. І выбары падцвердзілі гэта.

Моладзь не паважае вытворчую працу. Грамадства ўжо стварыла магутны пласт сучаснай моладзі -- "скураных хлопчыкаў", якія адчулі пах лёгкіх грошай і якіх ужо ніякім рублём не заахвоціш падыйсці да станка. Яны з агіднасцю глядзяць на рабочыя спецыяльнасці і тым больш на хлебаробскую працу.

У чалавека з"явілася натуральнае жаданне пабудаваць свой дом на зямлі, ён бачыць, што ў грамадскім "шпакоўніку" ніколі не будзе парадку, -- а дзяржава б"е па гэтаму жаданню працэнтамі на крэдыт. Праўда, плутакратам усё можна. Яны маюць беспрацэнтныя крэдыты, будуюць з дзяржаўнай сыравіны і дзяржаўнай рабочай сілай. Будаўнікі шукаюць працу за мяжой, і там іх працай вельмі задаволены, -- а тут, па віне кіраўнікоў дзяржавы, адны не могуць пабудавацца, а другія не могуць знайсці сабе працы. Сэрца радуецца, калі глядзіш на дамы-прыгажуны, якія растуць у асабістым сектары, але яно адразу засмучаецца, што ў сацыяльнай (па Канстытуцыі) краіне сярэднага дастатку чалавек не мае магчымасці пабудаваць значна больш сціплы, хоць і больш, магчыма, прыгожы дом. І вы хочаце, каб гэты сярэдні чалавек ахвотна пайшоў служыць у армію, міліцыю, дзяржаўную бяспеку?

А ці будзе парадак у краіне, дзе дзяржаўныя пасады сталі асноўнай крыніцай гандлю і прыбытку? Хіба ў нас заняць дзяржаўную пасаду, стаць дэпутатам жадаюць толькі адданыя, разумныя людзі, гатовыя служыць сваёй дзяржаве? Я не буду адказваць на гэта пытанне таму, што адказ відавочны. Шматлікія за гэтыя гады факты і публікацыі сведчаць, як дэпутатамі розных узроўняў выкарыстоўваюцца іх "хлебныя месцы".

Наша войска стала наёмным. У ім зусім маленькі працэнт афіцэраў -беларусаў. Таму так цяжка прыжываецца ў арміі беларуская нацыянальна-патрыятычная ідэя. Сапраўды, надарваная сувязь паміж паняццямі "грамадзянін" і "воін". Вялікі М.В.Ламаносаў гаварыў: "Гісторыя дае гасударам прыклады кіравання, воінам -- мужнасці, суддзям -- правасуддзя, маладым --старых розум, старым -- цвёрдасць у парадах". А ў нас кіраўнікі з агіднасцю глядзяць на гісторыю Беларусі. Забарона нацыянальных ваенных святаў яшчэ доўга будзе адгукацца ў нашай арміі. Грэбуем сваім -- бяздумныя ва ўжыванні чужога.

Вы не задумваліся, чым адрозніваюцца мультфільмы амерыканскія ад сапраўды філасофскіх прыбалтыйскіх, ад фальклорных, са шматлікімі прымаўкамі і прыказкамі -- народнай мудрасцю, з прыгожай мовай -- беларускіх, ад адукацыйных --чэшскіх, якія фарміруюць гуманную сістэму каштоўнасцяў? Амерыканскія мультфільмы -- гэта "супергерої"; усемагутнасць грошай, культ сілы і насілля. Еўропа працівіцца гэтай сістэме каштоўнасцяў, а мы праз расійскае тэлебачанне прапаведуем чужы беларусам і еўрапейцам дух.

З навін беларускага радыё можна пачуць весткі з якой-небудзь амерыканскай краіны, падрабязнасці спрэчак у Дзяржаўнай Думе Расіі і амаль нічога з таго, што цікавіць нас у сваёй краіне. Мы жывем чужым жыццём, мы па-чужому думаем. Але нашы кіраўнікі гэтага не разумеюць. Тэлебачанне застаецца архаічным. Не гледзячы на тое, што тэхнічна можна стварыць восем каналаў беларускіх, не робяцца нават спробы адкрыць другі.

У нашай дзяржаве спакойна друкуюцца газеты, ў якіх як слова -- так здзек з нашай дзяржаўнасці, нашай сімволікі. Дзе яшчэ, у якой краіне такое магчыма? Расійскамоўныя сродкі масавай інфармацыі і беларускія афіцыйныя, у якіх ад беларускасці --адна назва, працягваюць выхоўваць у беларусаў комплекс непаўнавартасці. Беларусу ўбілі ў галаву, што без "старэйшага брата" ён нішто, што разумныя, працавітыя, таленавітыя людзі жывуць дзесьці там, за мяжой, а тут толькі шэра-п"яная маса насельніцтва. Яны ўжо не ў стане заўважыць сапраўдныя таленты-самародкі вакол сябе.

## Пісьмо ў "БМ"

Каб не быць галаслоўным, прывяду толькі адзін прыклад. У Гомелі жыве Сяргей Іванавіч Кацелявец. Гэты зусім яшчэ малады хлопец з выдаткаў вытворчасці, якіх поўна па сметніках, змог пабудаваць сабе прыгажун-дом у пяць павярхаў! Прычым, два падземныя -- гэта падвал і майстэрня. Гэтага хлопца ведае ўся царкоўная іерархія Смаленска і Пскова. Ён піша іконы, вырабляе розныя царкоўныя прылады па ўзноўленых ім старых і вынайдзеных тэхналогіях. Яго запрашаюць у Расію для рэстаўрацыі і рамонту манастыроў і цэркваў. Яму прапануюць багацці, а ён зноў і зноў вяртаецца на Беларусь. І, крый Божа, каб і ён з"ехаў, як з"ехалі ўжо з краіны, дзе не паважаюць сябе і сваіх таленавітых суайчыннікаў, тысячы навукоўцаў, урачоў, музыкантаў...



А як жа выкарыстоўвае талент майстра радзіма? Сяргей працуе ў каапeратыве па вырабу магільных пліт і помнікаў. Хто ведае пра Сяргея ў Гомелі? Яго сябры, якія за чаркай крыюць гэтую краіну, якая не бачыць пад нагамі золата і цягнеца за меддзю за мяжу, ды яшчэ вельмі маленькая колькасць людзей. А колькі сотняў такіх самародкаў не запатрабавана нашым грамадствам? "Бацькі" ж дзяржавы ходзяць з торбаю жабрацкай па свеце. І гэта маючы такі народ!? Дай ты гэтым людзям спрыяльныя ўмовы -- і яны паўтораць "цуд" японскі і германскі 50-х гадоў, чэшскі і польскі 90-х.

А што ж народ? А народ, не маючы ідэі, на якой можна адрадзіцца, не адчуваючы запатрабаванасці ў сваіх талентах, розуме і майстэрстве на фоне дзяржаўнага бязладдзя пакрысе співаецца і крадзе. У краіне, якая не плоціць за працу, ці плоціць усім аднолькава, незалежна ад колькасці працы, толькі і застаецца красці. А дзяржава забіла ўжо ўсе турмы простымі мужыкамі, якія селі за мех бульбы, і працягвае будаваць новыя турмы для мужыкоў, якія бяруць у яе сваё, заробленае мазалём, але адабранае дзяржавай. Сапраўдныя ж злачынцы працягваюць разам з дзяржавай рабаваць, з выгадай гандлююць нашымі заводамі, нашымі чыгункамі, нафтапровадамі, нашай зямлёй, нашай радзімай. Народ маўчыць, таму што больш ні ў што і ні ў каго не верыць. Народ без веры, без ідэі, без маралі, без нацыянальнай самасвядомасці --гэта гліна, з якой можна рабіць усё, што заўгодна. І робяць.

Вось вам краіна: збараняюцца радыёперадачы і газеты, што абараняюць дзяржаўнасць, і не забараняецца ўтоптваць у гразь незалежнасць і Канстытуцыю; нацыянальна свядомыя людзі з"яўляюцца нацыянальнай меншасцю; у гэтай краіне слова "патрыёт" атаясамляецца са словам "нацыяналіст", з"яўляецца палітычным ярлыком; у якой афіцыйныя дакументы на дзяржаўнай мове дзяржаўныя служачыя патрабуюць "перапісать на человеческом языке"; дзе даецца дзесяць гадоў на вывучэнне роднай мовы, нібы кітайскай, і гэтыя дзесяць гадоў ператвараюцца ў гады барацьбы за выжыванне законнай дзяржаўнай мовы; у якой кіраўнікі адхрышчваюцца ад гісторыі сваёй краіны і называюць падручнікі "нацыяналістычнымі" (нібыта бываюць падручнікі па нацыянальнай гісторыі не нацыяналістычнымі); у гэтай краіне людзі не ведаюць сваіх каранёў і скачуць на магілах сваіх продкаў; старыя ператвораны ў жабракоў, сіроцтва пастаўлена на паток, і маладым людзям з першых жа самастойных крокаў ламаюць душу; у якой не паважаецца вытворчая праца і гэтая праца дае найменшы прыбытак; у якой салдаты бягуць з арміі і дзе народ з"яўляецца гістарычна і палітычна непісьменным і гатовы пайсці за любым папулістам, які пакажа простае выйсце са складанага становішча...

Такая краіна і такі народ не мае права на добрую будучыню --гэта проста немагчыма. Зямля, на якой не выконваюцца самыя асноўныя божыя запаведзі, не мае права на божую падтрымку. Дзе тыя беларускія маісеі, якія падобна яўрэйскаму Маісею, дапамаглі б свайму народу знішчыць раба ў сабе? Пакуль гэтага не адбудзецца, рабы будуць жыць так, як і належыць жыць рабам.

**_Ю.КЛІНЦОЎ, гісторык, г.Гомель_**



